# ПАГОНЯ

Чацвер
13 траўня 1999 г.
№ 33 (410)
Кошт 20.000 руб.

## «Вертыкаль» зноў абвясціла пагоню за ПАГОНЯЙ

**У аўторак падатковая інспекцыя па Ленінскаму раёну распачала праверку дзейнасці газеты ПАГОНЯ ў частцы «правільнасці і своечасовасці ўплаты падаткаў і разлікаў з бюджэтам».**

Акрамя таго, сёння ў Вышэйшым Гаспадарчым Судзе павінен разглядацца зыск нашай газеты да Дзяржкамдруку аб прызнанні несапраўдным вынесенага нам папярэджання, згодна з якім нас абвінавацілі ў «закліку да захопу ўлады». Справу ўзяў у свае рукі сам кіраўнік Вышэйшага Гаспадарчага Суда В.Бойка. Як напісана ў афіцыйным вызначэнні - «беручы пад увагу пэўную складанасць дадзеных справаў, іх сацыяльна-палітычную значнасць, вялікую цікавасць шэрагу міжнародных арганізацыяў». У выніку без нашай згоды нас плануюць судзіць разам з «Народнай Воляй», «Белорусской деловой газетой», «Имя», «Навіны», «Згода». Кампанія, канешне, «бардзо поважна», аднак мы не лічым, што гэта той выпадак, калі ўсіх можна заганяць «у калгас»...

Трэба адзначыць, што ўсё гэта дзіўным чынам супала з актывізацыяй крымінальнай справы, распачатай па факту «абразы гонару і годнасці прэзідэнта», якую вядзе следчы пракуратуры Ленінскага раёна А.Танкевіч. Днямі, да прыкладу, былі дапытаны ўсе супрацоўнікі рэдакцыі. Рэдактару газеты Міколу Маркевічу прадпісана тэрмінова прадставіць...характарыстыку.

Такое ўражанне, што рыхтуецца яшчэ адзін «працэс стагоддзя». І толькі ад характарыстыкі будзе залежаць, колькі даць гэтым «зарвавшимся» журналістам. Калі характарыстыка будзе добрай, то, мабыць, суддзя будзе мець права даць на пару гадоў менш.

**Ул.інф.**

## Ярашэвіч судзіць строга...

**Гаспадыня кватэры N2 па вуліцы Савецкай,3 у Гродне патэлефанавала ў раённую выбарчую камісію Ленінскага раёна абласнога цэнтра і выказала жаданне прагаласаваць датэрмінова. Сябра камісіі Сяргей Заянчкоўскі накіраваўся з пераноснай урнай па ўказанаму адрасу.**

У кватэры акрамя састарэлай жанчыны яго чакалі два міліцыянты. Сяргея затрымалі і завезлі ў РАУС. Была канфіскавана урна з 82-ма прагаласаванымі бюлетэнямі. 11 чыстых бюлетэняў па выбарах прэзідэнта Беларусі прадстаўнікі органаў праваапарадку парвалі.

Сяргею Заянчкоўскаму вусна загадалі 12 траўня з'явіцца ў суд. Але ранкам гэтага дня хлопца на «варанку» даставілі да суддзі Сяргея Ярашэвіча. Сябра выбарчай камісіі быў аштрафаваны на шэсць мільёнаў рублёў. Што да суддзі Сяргея Ярашэвіча, то нядаўна ён аштрафаваў на 115 мільёнаў рублёў старшыню Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуша Гавіна, вызначыў 13 сутак турэмнага зняволення старшыні незалежнага прафсаюза рэчавага рынка «Паўднёвы» Валерыю Леванеўскаму.

**Уладзімір Кавалёў**

***

**У сувязі з вялікай колькасцю парушэнняў правоў грамадзянаў падчас правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, прыёмная праваабарончага цэнтра «Вясна-96» пераходзіць на штодзённую працу.**

Калі Вашы правы парушаны, звяртайцеся да нас па тэлефоне 72-11-83 ці на адрас: вул. К.Маркса,11 з 15.00 да 19.00 гадзін штодзённа.

**Кіраўнік цэнтра С.Мальчык**




**14 і 15 траўня** - пахмурна, месцамі - дажджы. Вецер паўночна-ўсходні, 3-8 м/с, парывамі да 10 м/с. Тэмпература паветра ўначы +1...+2, удзень +6...+8.

# «Паўднёвы» працуе. Пакуль што...

**11 траўня гарадзенскія прадпрымальнікі спынілі забастоўку і выйшлі на працу. З гэтага дня працуюць усе гарадзенскія рынкі. Як стала вядома ПАГОНІ, рашэнне прыпыніць страйк далося прадпрымальнікам не проста. Яно стала вынікам вострай дыскусіі бастуючых вакол дакумента, тэкст якога прыводзіцца ніжэй.**

«Паважаныя прадпрымальнікі!

Наша акцыя пратэсту працягваецца ўжо дзесяць дзён. У нашых шэрагах назначыўся раскол. Частка з вас патрабуе спыніць акцыю пратэсту і пачынаць працу, у сувязі з чым звяртаюся да вас з тлумачэннямі сённяшняй сітуацыі: чаго мы дамагліся, чаго няма і што належыць рабіць далей.

У планах урада ёсць намер у 2000-м годзе ліквідаваць прадпрымальніцтва. Гэта пацвярджаецца шматразовымі выказваннямі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Па нашых звестках, ужо сёння ў падатковых службах ёсць дакумент, што загадвае ў бліжэйшы час скараціць лік прадпрымальнікаў на 70 працэнтаў. Відавочна, тое, што адбылося з сертыфікацыяй тавару, было першай спробай пазбавіць прадукцыі значную частку прадпрымальнікаў, і гэта азначала б канец НЭПа. Сваімі выступамі вы крыху стрымалі чынавенскі запал, улады пачалі з намі размаўляць і, канешне, трохі прытармазілі планы ліквідацыі прадпрымальніцтва.

Пакуль яшчэ вусна ўлады горада, у тым ліку начальнік Кастрычніцкага РАУС, абавязаліся не правяраць у прадпрымальнікаў сертыфікаты да вырашэння гэтага пытання па сутнасці. Адміністрацыя рынка на словах гатова выканаць ўсе нашы патрабаванні па аплаце месцаў. Адміністрацыя горада на словах абяцала паставіць на чарговай сесіі аблсавета пытанне наконт зніжэння стаўкі фіксаванага падатку.

Сядзіць пад арыштам Валерый Леванеўскі. У сувязі з гэтым ад вас паступаюць два варыянты нашых далейшых дзеянняў:

1. Не спыняць акцыю пратэсту, пакуль не будуць выкананы ўсе нашыя патрабаванні.

2. Арганізавана спыніць акцыю пратэсту, даць уладзе магчымасць улічыць нашыя інтарэсы пры прыняцці рашэнняў, звязаных з прадпрымальніцтвам.

З'яўляючыся намеснікам старшыні прафсаюза прадпрымальнікаў, улічваючы, што на сёння акцыю пратэсту працягваюць толькі прадпрымальнікі Гродна, каб пазбегнуць расколу і міжусобіцы паміж самімі прадпрымальнікамі, прапаную: арганізавана спыніць акцыю пратэсту. Часам, для таго, каб атрымаць перамогу, трэба адступіць. На сённяшні дзень - супраць нас велізарны рэпрэсіўны апарат і дзяржаўная ўлада. Трэба цвяроза ацэньваць сітуацыю. Мы яшчэ вельмі слабыя, таму што адны. Аднак мы абавязкова вернемся да вырашэння ўсіх нашых пытанняў, але ўжо разам з рабочымі, інтэлігенцыяй ды іншымі пластамі грамадства, з усім народам Беларусі. Гэты момант надыдзе непазбежна. Прапануючы гэтае простае рашэнне, ведаю, што не ўсе будуць ім задаволены, але на сёння лічу яго адзіна правільным.

Мяркую, што калі вы арганізавана пачнеце працаваць, вы акажаце давер кіраўніцтву прафсаюза і дасце яму паўнамоцтвы весці перамовы па невырашаных пытаннях ад вашага імя.

**Аляксандр Васільеў, намеснік старшыні прафсаюза прадпрымальнікаў»**



Лідар прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі адседжвае тым часам трынаццаць сутак у СІЗА

# Саюз палякаў дамагаецца справядлівасці

**Насуперак выказванням прэзідэнта А.Лукашэнкі аб існуючай ў Беларусі гармоніі ў галіне міжнацыянальных адносінаў, прадстаўнікі польскай нацыянальнай супольнасці не адчуваюць падобнай гармоніі з ўладнымі структурамі. Такую заяву зрабіў старшыня Саюза палякаў Беларусі (СПБ) Тадевуш Гавін 6 траўня на прэс-канферэнцыі ў Менску ў штаб-кватэры Хартыі'97.**

Старшыня СПБ нагадаў журналістам пра тое, што польская нацыянальная супольнасць на Беларусі налічвае больш за 400 тысяч чалавек і з'яўляецца па колькасці трэцяй у краіне, а ў Гарадзенскай вобласці — другой. Разам з тым, заявіў Т.Гавін, у краіне няма ніводнай польскамоўнай школы, пабудаванай за кошт дзяржавы і дзейнічаюць толькі дзве нацыянальныя школы, існуючыя на сродкі сусветнай польскай дыяспары — у Гродне і Ваўкавыску.

Акрамя таго, як адзначыў Т.Гавін, навучанне польскіх дзяцей на роднай мове праводзіцца ў «дыскрымінацыйнай форме факультатываў», а ўлады не дапускаюць адкрыцця нацыянальных класаў у Навагрудку і Воранаве, не дазваляюць на сродкі СПБ пабудаваць польскамоўную школу ў Навагрудку і не выдаюць падручнікі на польскай мове.

Днямі, пасля некалькіх гадоў ганенняў і службовых пераследаў звольнены з працы загадчык аддзела адукацыі Воранаўскага райвыканкама Павел Орпік, заўважыў старшыня СПБ. «Мы лічым, што галоўнай і адзінай прычынай яго звальнення стала добразычлівае стаўленне П.Орпіка да адраджэння польскай мовы, а таксама яго знаходжанне на пасадзе старшыні аддзела СПБ», — падкрэсліў Т.Гавін.

На яго думку, усе звароты грамадскай арганізацыі да ўладаў, у тым ліку да прэзідэнта краіны, застаюцца без адказу. Такім чынам, падкрэсліў старшыня СПБ, у галіне правоў польскай нацыянальнай супольнасці ўлады груба парушаюць беларускае заканадаўства.

У знак пратэсту супраць гэтай палітыкі Саюз адмовіўся ад удзелу ў III Усебеларускім фестывалі нацыянальных культур і стаў праводзіць пікетаванні, у адказ на гэта дзяржава ўзмацніла ціск на структуры СПБ, падкрэсліў Т.Гавін. Прыкладамі такога ціску ён назваў разгон АМАПам несанкцыянаванага пікетавання, якое адбылося 17 красавіка ля гарадзенскай штаб-кватэры арганізацыі, забарону ўладаў на правядзенне пікетавання 10, 11 і 12 траўня, калі ў Гродне планавалася правесці сесію Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, а таксама спробы ўнясення расколу ў дзейнасць польскай нацыянальнай супольнасці з боку Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў і Міністэрства культуры Беларусі.

Не апраўдаліся спадзяванні СПБ на вырашэнне праблемаў навучання дзяцей на роднай мове праз Кааардынацыйны савет па справах нацыянальных супольнасцяў, створаны пры Дзяржкамнацы, адзначыў Т.Гавін.

«Усё гэта прымушае нас заявіць, што калі да чарговага пасяджэння савета не будуць прынцыпова вырашаны пытанні стварэння і нармальнага функцыянавання класаў і будаўніцтва школы з польскай мовай навучання ў Навагрудку, а таксама пытанні выдання падручнікаў і забеспячэння выкладчыкамі, то мы вымушаны будзем разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці ўдзелу СПБ у дзейнасці Каардынацыйнага савета», — заключыў Тадэвуш Гавін.

**Марат Гаравы**

## Гарвыканкам «купіў» прадпрымальнікаў?

**Гарадзенскі гарвыканкам зацвердзіў дакумент, згодна з якім індывідуальным прадпрымальнікам, якія зарэгістраваныя ў гарвыканкаме і ўплочваюць фіксаваную стаўку падатку па гандлёва-закупачнай дзейнасці, прадастаўляецца растэрміноўка па ўплаце.**

Устаноўлены, у прыватнасці, наступныя тэрміны ўплаты: падатак за травень —50 працэнтаў у траўні і 50 працэнтаў не пазней за 30 чэрвеня; за чэрвень — 50 працэнтаў у чэрвені, астатнія 50 — не пазней як 30 ліпеня. Згодна з дакументам, гэтыя правілы ўведзены пасля разгляду шматлікіх зваротаў прадпрымальнікаў у гарвыканкам па пытаннях уплаты падаткаў, а таксама ў сувязі з павелічэннем з 1 красавіка фіксаванай стаўкі падатку і павелічэннем з 1 траўня памеру мінімальнага заробку. Улады Гродна разлічваюць, што цяпер прадпрымальнікі, якія гандлююць на рэчавых рынках горада, спыняць бестэрміновую акцыю пратэсту, якая пачалася 1 траўня.

Падчас гэтай акцыі прадпрымальнікі запатрабавалі зменшыць плату за гандлёвыя месцы, знізіць фіксаваную стаўку падатку і спрасціць парадак сертыфікацыі тавараў.

**Ася Куніцкая**

## Па Гродне Эн і Дэніэл хадзілі...

**7 траўня наш горад наведала нядаўна прызначаная другім сакратаром амбасады ЗША на Беларусі Эн Карсан. У час рабочай паездкі яе суправаджаў прадстаўнік Дзяржэпартаменту Злучаных Штатаў Дэніэл Тэрнбул.**

Дыпламаты сустракаліся з уладамі вобласці і горада. Таксама мелі гутаркі са старшынёй Каардынацыйнага камітэта «Гарадзенская ініцыятыва», сябрам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямёнам Домашам, кіраўніком Саюза палякаў на Беларусі Тадэвушам Гавіным, старшынёй гарадской арганізацыі БНФ «Адраджэнне» Сяргеем Мальчыкам, рэдактарам незалежнай газеты ПАГОНЯ Міколам Маркевічам.

Госці цікавіліся сацыяльна-эканамічным і палітычным жыццём рэгіёна, адносінамі да прэзідэнцкіх выбараў, якія цяпер праводзяцца пад кантролем Цэнтрвыбаркама на чале з Віктарам Ганчаром.

Высокапастаўленыя амерыканскія службоўцы атрымалі вычарпальныя адказы на свае пытанні.

**Антон Лабовіч**

## Міліцыя таксама прымае удзел у выбарах!

**У вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна супрацоўнікамі міліцыі вечарам 9 траўня былі затрыманы два актывісты кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі, сябры участковай выбарчай камісіі Андрэй Алейнікаў і Віктар Ляўкевіч.**

Пра гэта паведаміў старшыня Дзятлаўскай раённай арганізацыі БНФ Васіль Алейнікаў. Паводле яго сцвярджэння, два маладыя чалавекі былі дастаўлены ў аддзяленне міліцыі, дзе ў іх былі канфіскаваны асабістыя рэчы, пасведчанні сябраў участковых камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і 91 чысты бланк выбарчых бюлетэняў. У затрыманых таксама была канфіскавана скрыня для галасавання, у якой знаходзіліся ўжо запоўненыя бюлетэні.

Паводле словаў В.Алейнікава, у аддзяленні міліцыі на маладых людзей аказваўся ціск. У прыватнасці, міліцыянты патрабавалі ад іх прызнання, што за ўдзел у выбарчай кампаніі яны атрымлівалі грошы. Аднак затрыманыя такія паказанні даць адмовіліся. Пасля двухгадзіннага знаходжання ў аддзяленні міліцыі, абодва актывісты былі адпушчаны.

**Юрый Пацёмкін**

# «Другі Прэзідэнт Беларусі абавязкова будзе абраны!»

**Больш за 20 працэнтаў жыхароў Гарадзеншчыны ўжо выканалі свой грамадзянскі абавязак і прагаласавалі на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Улады ўсяляк перашкаджаюць свабоднаму волевыяўленню людзей. Пра гэта паведаміў старшыня абласной выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта краіны Мікалай Баўсюк. З ім гутарыць наш карэспандэнт.**

- Днямі Гродна наведала нямецкая журналістка. Яна звярталася да прахожых і была вельмі здзіўлена, што гарадзенцы ведаюць пра выбары, актыўна ўдзельнічаюць у галасаванні. Незалежныя сродкі масавай інфармацыі добра папрацавалі ў гэтым накірунку. Дзяржаўныя газеты, радыё і тэлебачанне, таго не жадаючы, таксама спрычыніліся да актывізацыі выбараў. Агітавалі супраць кандыдатаў у прэзідэнты Зянона Пазьняка і Міхаіла Чыгіра, аблівалі брудам гэтых мужных людзей. Хацелі як найлепш выканаць палітычны заказ палкоўнікаў ад ідэалогіі. Атрымалася, як заўсёды...

***- Законам дазволена папярэдняе галасаванне. Ці карыстаюцца выбарчыя камісіі такой магчымасцю?***

- Мы дзейнічаем строга ў рамках закона. Грамадзяне маюць права галасаваць па месцу жыхарства, калі з нейкіх прычын не змогуць аддаць свой голас 16 траўня. Гэта значыць, неабавязкова на выбарчых участках. Калі сябры выбарчых участковых камісій атрымаюць пісьмовае ці вуснае пажаданне чалавека прагаласаваць у яго на кватэры, то гэта не будзе парушэннем заканадаўства. Дарэчы, у сваіх заявах выбаршчыкі тлумачаць прычыну датэрміновага галасавання менавіта магчымасцю ў дзень выбараў 16 траўня свайго затрымання. На нядаўніх выбарах у мясцовыя Саветы ўлады шырока скарысталі такую мажлівасць. Тады па вобласці датэрмінова прагаласавала 24 працэнты выбаршчыкаў ад агульнай колькасці. А мы што, горшыя? Закон аднолькавы для ўсіх.

***- Вярхоўны Савет Беларусі прызначыў выбары на 16 траўня. Гэта бліжэйшая нядзеля. Ці могуць людзі завітаць на выбарчыя ўчасткі?***

- Для гэтага трэба патэлефанаваць на нумар 72-11-83 і атрымаць неабходную інфармацыю. Я казаў, што ўлады чыняць праслед сяброў выбарчых камісій, запалохваюць выбаршчыкаў. Мы не хочам, каб людзі мелі нейкія непрыемнасці. Але і «вертыкальшчыкі» павінны ведаць, што перашкода правядзенню выбарчай кампаніі караецца пазбаўленнем волі да пяці гадоў. Адмова ў прадастаўленні спісаў выбаршчыкаў, памяшканняў для галасавання, магчымасці выкарыстання дзяржаўных СМІ для кандыдатаў у прэзідэнты і ёсць крокі на зрыў выбараў, парушэнне закона. Цэнтрвыбаркам на чале з Віктарам Ганчаром адпрацаваў іншую сістэму галасавання, якая не супярэчыць закону аб выбарах, улічвае жорсткі супраціў прэзідэнцкіх чыноўнікаў.

***- Ва ўмовах супрацьдзеяння дзяржаўных органаў кіравання на месцах мала хто адважыцца адкрыта аддаць свой голас за таго ці іншага кандыдата ў прэзідэнты...***

- Старшыні абласных выбарчых камісій маюць паміж сабой пастаянны кантакт. Адзначана высокая актыўнасць грамадзян краіны. Усім абрыдла жабрачае жыццё і штодзённая хлусня пра нібыта паляпшэнне эканамічнай сітуацыі. Цэны ў магазінах цяпер - галоўны агітатар і прапагандыст на карысць радыкальных пераўтварэнняў у грамадстве.

Улады ніякіх зменаў не хочуць. Арыштоўваюць сяброў выбарчых камісій, як гэта было нядаўна ў Дзятлаве і Гродне. Ліквідавалі друкарню, дзе рыхтаваліся бюлетэні для галасавання. У Гродне міліцыянты пачалі штодзень апекавацца над штаб-кватэрай БНФ «Адраджэнне», патрабуюць зняць абвестку, якая запрашае грамадзянаў прыняць удзел у выбарах.

Але другі прэзідэнт Беларусі будзе абавязкова абраны!

**Гутарыў**
**Антон Лабовіч**

# Ахвяраваць за Беларусь

**Як паведамлялася, 25 красавіка ў Гродне прайшло несанкцыянаванае шэсце моладзі, што з'ехалася з усёй краіны дзеля пратэсту супраць запланаванага аб'яднання Беларусі з Расіяй. Шэсце было разагнана міліцыяй і АМАПам, якія ўжывалі слёзацёкавы газ, дубінкі і прыклады аўтаматаў. Некаторыя з дэманстрантаў былі жорстка збіты. Іх працягвалі біць нагамі, кулакамі і ў машынах, што везлі іх у пастарунак. Дасталося і міліцыі... Чатырнаццаць хлопцаў трапілі за краты. Сярод затрыманых было некалькі слонімцаў. Адзін з іх, які правёў за кратамі чацвёра сутак, распавёў пра жудасныя ўмовы ўтрымання зняволеных.**

— У ізалятар часовага ўтрымання мяне прывезлі ў кайданках, — расказвае ён, — забралі ўсе рэчы, распранулі, абшукалі. Я папрасіў выклікаць урача, каб зняць пабоі, але мне адмовілі. Не дазволілі і патэлефанаваць родным, паведаміць, дзе знаходжуся...

Міліцыянты "пад капірку" пісалі пратаколы. Нібыта я быў п'яны і "ругался матом". Гэта былі стандартныя абвінавачванні для ўсіх. Але ж я не быў п'яны! Узяць у мяне аналізы, каб гэта пацвердзіць, яны не захацелі. Пратакол я не падпісаў. Толькі напісаў, што з яго зместам не згодзен. Да раніцы быў у камеры, дзе акрамя мяне знаходзіліся восем чалавек. Раніцай завезлі ў суд Ленінскага раёна г.Гродна. Выклікае суддзя: "Што, не згодзен з пратаколам? Тады будзем выклікаць сведкаў." А сведкі, міліцыянты, нейкія ў цывільным, хлусілі проста ў вочы. Суддзя ж раздаваў суткі: каму двое, каму трое. Мне даў чацвёра. Напэўна, таму, што быў збіты больш за іншых — яны спадзяваліся, што праз чатыры дні, пасля вызвалення, буду выглядаць лепей. Нібыта і не моцна яны мяне білі...

Павезлі мяне ў прыёмнік-размеркавальнік. У камеры 1,20х3 м нас было трое. Міліцыянт адразу ўзяў з маіх грошай 200 тысяч на "штраф" (за кожны дзень адсідкі — па 50 тысяч рублёў). Сказаў, што іх "паслугі" каштуюць грошай. Тут жа паведамілі, што з камеры нас выводзіць не будуць.

Два дні нас не кармілі. Калі ў панядзелак прывезлі з суда, то сказалі, што на абед мы спазніліся. У аўторак увесь дзень мы таксама галадалі. Вечарам, нарэшце, далі супу, па дзве лыжкі кашы і па паўбохана хлеба на чалавека. У апошні дзень нашу камеру пакінулі без хлеба. "Сказалі - вам не даваць,"— прызнаўся ахоўнік. Тады з намі падзяліліся хлебам хлопцы з суседняй камеры.

Некалькі сутак ляжалі на голых дошках: холад, скразнякі. Фортка ў акне камеры была выбіта. Мерзлі без цёплай вопраткі. Пра нейкую гігіену і гаворкі быць не магло. Чатыры дні не галіўся і не мыўся (змыў толькі кроў з твару).

Усё рабілася з мэтай маральна-псіхалагічнага ціску на мяне і маіх сяброў. На допытах следчы палохаў крымінальнай справай, якую, нібыта, на мяне ды іншых хлопцаў могуць завесці. "За Беларусь я гатовы ахвяраваць сваёй свабодай і здароўем", — адказаў я яму.

На волю адпусцілі ў чацвер у 20.45. Далі паперку, што заплаціў штраф. "Дайце, — кажу,— даведку, што ў вас сядзеў". "Даведкі даюць у трэцім кабінеце з 9 да 17.00"... Чакаць раніцы не хацелася, паехаў у Слонім.

**Запісаў Сяргей Ёрш,**
**«ГС»**

# Спыніць тэрор!

**Каардынацыйная Рада дэмакратычных сілаў Беларусі, прыняла заяву ў сувязі са знікненнем аднаго з лідэраў дэмакратычнага руху, былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі.**

«Яно ўкладваецца ў межы таго плану структураў КГБ па нейтралізацыі апазіцыі, існаванне якога ўзмоцнена адмаўляецца ўладамі, — гаворыцца ў заяве Рады. — Падзеі апошняга часу сведчаць не толькі пра існаванне гэтага плану, але і аб яго рэалізацыі». У якасці пацвярджэння гэтых словаў у заяве прыводзяцца наступныя факты, што адбыліся на працягу апошніх месяцаў гэтага года: жорсткае збіванне ў лютым Андрэя Саннікава —каардынатара Хартыі'97, былога намесніка міністра замежных справаў; арышт у сакавіку Віктара Ганчара — старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта, былога віцэ-прэм'ера ўрада; арышт у сакавіку Міхаіла Чыгіра — кандыдата ў прэзідэнты, былога прэм'ер-міністра Беларусі; раптоўная смерць у красавіку Генадзя Карпенкі — члена КРДС, віцэ-спікера Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання; таямнічае знікненне з-пад хатняга арышту ў красавіку Тамары Віннікавай — былой старшыні Нацыянальнага банка рэспублікі; гібель у аўтакатастрофе «пры дзіўных абставінах» Арнольда Пячэрскага — кіраўніка прафсаюза прадпрымальнікаў «Садружнасць» ды некаторыя іншыя факты.

**Наталля Кулагіна**

# Літоўскі пацыент

**Прэзідэнт Беларусі звярнуўся да прэзідэнта Літвы з прапановай вызваліць з турмы аднаго з кіраўнікоў літоўскіх камуністаў Буракявічуса, асуджанага за ўзброены путч у студзені 1991 года ў Вільнюсе, і дазволіць яму выехаць на Беларусь для лячэння. Пасля выздараўлення наша кіраўніцтва абяцае вярнуць вязня-пацыента даседжваць у Літву.**

Вельмі кранае міласэрнасць, якую беларускі прэзідэнт праяўляе да дзяржаўнага злачынцы суседняй краіны. Пасля разгрому путча (нагадаем, савецкая ваеншчына штурмавала тэлецэнтр, камендант Вільнюса прыняў на сябе ўсю паўнату ўлады. Загінула больш як дзесяць жыхароў. Савецкая прапаганда сцвярджала, што літоўцы самі пхалі людзей пад гусеніцы танкаў. Быў забіты таксама адзін штурмавік з КГБ) Буракявічус з «корешами» хаваўся ў Менску (сюды ж перавёўся на службу і ваенны камендант Вільнюса генерал Усхопчык). Але літоўскія спецслужбы высачылі іх і даставілі ў Вільнюс (гэта выдача каштавала пасады міністрам унутраных справаў і бяспекі Беларусі). Літоўскі суд прызнаў Буракявічуса і ягоных таварышаў вінаватымі і асудзіў на доўгі тэрмін пазбаўлення волі.

Якая справа Беларусі да лёсу Буракявічуса, навошта нам наводзіць цень на пенітэнцыярную сістэму Літвы? Можа, лепей звярнуць увагу на нашыя СІЗА, спецразмеркавальнікі і калоніі, навесці там элементарны парадак, не марыць асуджаных голадам, паважаць іх элементарныя чалавечыя правы? Мо годзе ўжо «расчалавечваць» айчыннага камуніста В.Шчукіна дзесяткамі арыштаў, выпусціць з СІЗА і калоніяў Чыгіра, Клімава, падлячыць дзядулю Старавойтава?

Няўжо нас не цікавяць гэтыя годныя сыны Беларусі, а турбуе лёс нацыянальнага здрадніка з Літвы, які спрабаваў перашкодзіць сваёй краіне дамагчыся незалежнасці і свабоды? Няўжо для Беларусі карысна, калі з краіны выязджаюць у эміграцыю па палітычных і эканамічных прычынах тысячы лепшых спецыялістаў і самых адданых патрыётаў, а прыязджаюць, хаваючыся ад крымінальнага праследу і грамадзянскай нянавісці суайчыннікаў, розныя прайдзісветы і набрыдзь?

Але такая сёння наша рэчаіснасць.

**Сяргей Самасей**

# Зварот да выбаршчыкаў Беларусі

**16 траўня 1999 года па Закону павінны адбыцца выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Кіраўніцтва Цэнтральнай выбарчай Камісіі (старшыня В.Ганчар) насуперак Закону аб'явіла выбары з 6-га траўня і запланавала праводзіць іх 10 дзён шляхам пакватэрнага абыходу выбаршчыкаў са скрыняй для галасаваньня.**

Механізму ўсеагульнага 10-дзённага галасаваньня з пакватэрным абыходам няма ў беларускім заканадаўстве. «Кіраўніцтва ЦВК падтасавала палажэньні Закону, якія датычаць толькі асобных катэгорыяў выбаршчыкаў, што могуць прагаласаваць раней). Гэта - грубае парушэньне Закону «Аб выбарах Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь».

Гэткім жа антызаконным метадам у 1996 годзе Лукашэнка праводзіў антыпраўны рэферэндум, які не прызнала міжнародная супольнасьць.

Беларусіх выбаршчыкаў (і мяне як кандыдата) уцягваюць у безадказную дрэнную справу. Выбары антызаконным метадам (і тым больш - з прыкметамі ашуканства) ня будуць прызнаныя Народным Фронтам, міжнароднай супольнасьцю і беларускім грамадзтвам.

Мае звароты да кіраўніцтва ЦВК з патрабаваньнем выконваць заканадаўства не былі ўлічаны.

Нават калі б галасаваньне па Закону (на выбарчых участках і ў адзін дзень) доўжыламся б усяго 5 хвілінаў і было б спыненае сілай рэжыму, то юрыдычная, палітычная і маральная перавага і праўда засталіся б за арганізатарамі і ўдзельнікамі выбараў. Выбары, прыпыненыя сілай, на гэтым не спыніліся б і маглі быць у любы час законна адноўленыя зноў (скажам, адразу пасьля 20-га ліпеня, калі заканчваецца прэзыдэнцкі тэрмін Лукашэнкі). Цяпер жа выбарчы працэс ператвараецца ў несур'ёзныя паводзіны.

Я зьвяртаюся да выбаршчыкаў Беларусі з прапановай задумацца над сваім удзелам у 10-дзённай антызаконнай прафанацыі галасаваньня. Яна можа скампрамэтаваць усіх. Добрыя мэты дасягаюцца добрымі сродкамі. Галасаваньне павінна адбывацца толькі па Закону: у адзін дзень, 16 траўня, з 7.00 да 22.00 гадзін на выбарчых участках.

Калі кіраўніцтва ЦВК ня спыніць сумніўныя гульні з Законам, з народам і з кандыдатамі, не адкліча свайго памылковага, незаконнага рашэньня і не забясьпечыць нават спробы законнага галасаваньня, то яно павінна прызнаць сваю няздольнасьць арганізаваць і правесьці выбары.

**Зянон Пазьняк,**
**кандыдат у Прэзыдэнты**
**Рэспублікі Беларусь**
**7 траўня 1999 года**

# Фронт прыкладзе ўсе намаганні каб выбары адбыліся

**8 траўня ў Менску адбылося чарговае пасяджэнне Сойма Беларускага Народнага Ффронту. Асноўным яго пытаннем стала абмеркаванне далейшага ўдзелу гэтай арганізацыі ў выбарах прэзідэнта Беларусі.**

Як вядома, на працягу апошняга часу БНФ неаднаразова выступаў з крытыкай Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта і яе старшыні Віктара Ганчара. На думку Фронта, Цэнтральная камісія парушыла Закон аб выбарах прэзідэнта, вырашыўшы наладзіць датэрміновае галасаванне па месцы жыхарства выбаршчыкаў. 7 траўня лідар БНФ Зянон Пазьняк даслаў з Варшавы «Зварот да выбаршчыкаў Беларусі», дзе параўнаў дзеянні камісіі В.Ганчара з дзеяннямі прэзідэнта А.Лукашэнкі падчас лістападаўскага рэферэндуму 1996 года. Ён запатрабаваў правядзення выбараў толькі ў адзін дзень — 16 траўня з 7 да 22 гадзін на стацыянарных выбарчых участках. У адваротным выпадку, па ягоных словах, выбары «не будуць прызнаныя Народным Фронтам, міжнароднай супольнасцю і беларускім грамадствам».

На пасяджэнні Сойма пазіцыю З.Пазьняка падтрымаў кіраўнік яго выбарчага штаба Сяргей Папкоў. Аднак з супрацьлеглым пунктам погляду выступілі прадстаўнікі рэгіянальных структураў БНФ, якіх падтрымалі сябры кіраўніцтва Фронту Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык і Лявон Баршчэўскі. На іх думку, Цэнтральная камісія дзейнічае ў адпаведнасці з заканадаўствам, а правал выбараў засведчыць поўнае паражэнне апазіцыі.

Па выніках абмеркавання гэтага пытання Сойм прыняў пастанову, у якой гаворыцца, што БНФ прыкладзе ўсе намаганні, каб прэзідэнцкія выбары адбыліся. Фронт просіць Цэнтркам паскорыць вызначэнне месцаў галасавання 16 траўня, а таксама друкаванне ўлётак з падрабязнай інфармацыяй аб выбарах. Як лічаць некаторыя палітыкі, крытыка дзейнасці Цэнтркама з боку З.Пазьняка і прыхільнікаў ягонага пункту гледжання часткова звязана з тым, што, па разліках аналітыкаў, высокая яўка выбаршчыкаў значна павышае шанцы на перамогу другога кандыдата ў прэзідэнты — Міхаіла Чыгіра.

**Дзмітрый Уласаў**

# Не па Сашцы шапка

**На думку спікера Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямёна Шарэцкага, высокая актыўнасць выбаршчыкаў на ідучых зараз выбарах прэзідэнта тлумачыцца тым, што людзям «надакучыла увесь час выслухоўваць хлусню» з вуснаў вышэйшых афіцыйных чыноўнікаў.**

«Ужо дзесяткі разоў нам абяцалі, што цэны больш расці не будуць, а яны ўсё роўна рвуцца ўверх і ўверх, — адзначыў у гутарцы з карэспандэнтам С.Шарэцкі. — Людзі ж не дурні: спачатку яны верылі прэзідэнту, думалі, што яму перашкаджаюць, зараз жа практычна ўсе пераканаліся, што пасада, якую займае Аляксандр Лукашэнка, яўна не па яго здольнасцях».

Кіраўнік Вярхоўнага Савета прывёў красамоўны прыклад няўмення гаспадарыць. Так, за адзін літр малака тлустасцю 3,2 працэнта дзяржава плаціць калгасам усяго 19 тысяч рублёў, а прадае яго значна даражэй. Розніца ў цэнах, паводле ягоных словаў, ідзе зусім не на паляпшэнне жыцця народа, а на ўтрыманне рэпрэсіўнага апарату. С.Шарэцкі мяркуе, што большасць выбаршчыкаў у астатнія да завяршэння галасавання дні скарыстаюць сваё законнае права.

Што тычыцца дзеянняў Вярхоўнага Савета пасля 16 траўня, то тут яго кіраўнік быў катэгарычны: «Легітымны Вярхоўны Савет будзе рабіць тое ж, што і раней — строга выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года».

**Уладзімір Глод**

# Мінюст папярэджвае...

**Як паведаміла прэс-служба Міністэрства юстыцыі Беларусі, Мінюст выступіў з чарговай заявай адносна правядзення ў рэспубліцы кампаніі па выбарах прэзідэнта, абвешчанай Вярхоўным Саветам 13-га склікання.**

«Дзеянні групы дэпутатаў былога Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання па правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і па стварэнні цэнтральнай камісіі па выбарах, гэтак жа як і прымаемыя гэтай камісіяй рашэнні, з'яўляюцца незаконнымі», — заяўляе Мінюст. Міністэрства таксама звяртае ўвагу грамадзян «на антыканстытуцыйнасць прадугледжаных 16 траўня 1999 года выбараў» і адзначае, што «пастанова цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі аб правядзенні датэрміновага галасавання з 6 па 15 траўня, выхад сяброў тэрытарыяльных выбарчых камісій дадому да грамадзян з'яўляюцца найгрубейшым парушэннем дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь».

Нагадаем, што гэта ўжо трэцяя заява Міністэрства юстыцыі аб незаконнасці правядзення выбараў прэзідэнта, прызначаных Вярхоўным Саветам.

**Наталля Кулагіна**

# Слон Сурак жывы, але заапарк вымірае

**Калі мне сказалі, што ў Гарадзенскім заапарку памёр слон, я паспяшаўся ў звярынец. Але, дзякуй Богу, рэпартажа пра смерць і пахаванне слана не будзе: Сурак жыў, Сурак жывы, і, хаця Сурак не вечны, ён будзе жыць яшчэ доўга. Калі пашанцуе...**

Сланы і ў нявол дажываюць да 60-ці гадоў і больш. А наш Сурак яшчэ не стары - яму 43 гады. У той сонечны травеньскі дзень ён «парыўся»: біў сябе па баках бярозавым венікам, а потым жаваў хлеб. Я чамусьці яму не спадабаўся: слон набраў хобатам з лужыны вады і стаў падобным да гейзера. Работнікі заапарка гавораць, што «Сурык» не любіць мужчын, але калі ўзгадаць мінулагоднюю драму, то ён адправіў на той свет якраз не мужчыну.


Чуткі пра смерць Сурака аказаліся перабольшанымі

У замагільныя джунглі сланы адыходзяць і не дажыўшы да глыбокай старасці. У нашым заапарку пра гэта ведаюць. Калісьці тут жыла сланіха Дамба. Калі Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў быў у Індыі, яму падаравалі слана, а савецкая дэлегацыя прыхапіла з сабою быка-вытворніка. Потым Дамба апынулася ў цырку, і выводзіў яе на арэну сам Дураў. Выступала Дамба і ў менскім цырку, а потым яе «саслалі» ў наш заапарк: сланіха пазбавіла жыцця аднаго чалавека.

А ў Гродне не пашанцавала і самой Дамбе. Калісьці тут выпаў нечаканы снег, і Дамба ўсю ноч прастаяла з сумётам на спіне, а хутка і зусім астыла... І тады ў заапарк прыйшоў доктар ветэрынарных навук Леанід Луцэвіч з вялікай групай студэнтаў. Яны выканалі задуманае, а потым сэрца слана, магутны чэрап, зрэз хобата, велізарныя косткі з'явіліся ў анатамічным музеі Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута. Там яны і цяпер.

Хварэюць, старэюць і паміраюць не толькі людзі. У пачатку 90-х гадоў у нашым заапарку было каля 370-ці відаў звяроў, птушак; на сённяшні дзень засталося 306 відаў. У мінулым годзе заапарк недалічыўся васьмі відаў. У гэтым годзе адышоў у замагільную пустыню адзіны вярблюд, не стала белагаловага сіпа, тапіра... Праўда, нядаўна заапарку выдалі ліцэнзію на адлоў самкі зубра ў Белавежскай пушчы, але іншага папаўнення не прадбачыцца. Пры такім фінансаванні заапарка яго фауну чакае выміранне. Тут, паводле словаў дырэктара Цэліны Пагерыла, вельмі старая калекцыя. Каб папоўніць страту толькі вярблюда, тапіра, патрэбны тысячы даляраў. Хто ж іх дасць, калі тлушчу пад скурай беларусаў застаецца ўсё меней?

Зрэшты, звяры ў заапарку не галадаюць, грошай на корм хапае. А вось адзін як нядаўна здох ад...перяядання. Пачаўся цёплы сезон - наведвальнікі заапарка панеслі да вальераў хлеб, вось як па мянушцы Чарныш і распух... З той жа прычыны даваліся пакутаваць бізону і антылопе кане, нават да сутаргаў дайшло, але, на шчасце, выжылі.

Людзі добрыя, калі няма грошай на цукерачку ці пячэнне, то прыходзьце ў звярынец і без кавалка хлеба. Лепш сушыце сухары - вам самім яны яшчэ спатрэбяцца...

Вадзім Жураўлёў

# Не зацыкліваца на трэпанацыі

**На мінулым тыдні ў гарадзенскім медінстытуце адбылася беспрэцэдэнтная падзея - выстава карцін студэнтаў-медыкаў. Гэта першы вернісаж будучых урачоў.**

У фае на першым паверсе мастакі размясцілі хай і невялічкую, але затое сваю экспазіцыю з жывапісных і графічных твораў. Выкладчык з ваеннай кафедры Іван Ёлкін зрабіў фотавыставу. Астатнія ўмельцы аформілі куток з дэкаратыўна-прыкладнымі вырабамі.

Натхняльнікам імпрэзы стала выкладчыца рускай мовы і літаратуры медінстытута Надзея Мішонкава. Яна лічыць, што галоўнай мэтай і вынікам выставы стане «магчымасць усім нам, выкладчыкам, убачыць студэнта ў новым ракурсе. Па водгуках калег я бачу, што яны проста дзівіліся з такіх талентаў сваіх навучэнцаў. І, з другога боку, самім студэнтам важна ўмець пераключацца з аднаго віду працы на другі, не зацыкліваца на трэпанацыі чэрапа». Цікава, што выстава стала вынікам прыватнай ініцыятывы невялікай калькасці аднадумцаў. А структуры накшталт «арганізацыйна-масавых» пасадаў пакуль што засталіся ў баку. У планах студэнцкага творчага гуртка - стварыць сапраўдную суполку, выдаць зборнік вершаў студэнтаў і выкладчыкаў ды шмат іншага.

Самыя багатыя «калекцыі» для экспазіцыі прынеслі Ірына Мішонкава і Сяргей Кузьміч.

Ірына вучыцца на трэцім курсе. Піша вершы, музыку, ведае ангельскую мову. Выканала галоўным чынам графічныя творы. Мае намер стаць псіхіятрам і адразу, як спецыяліст па людской псіхіцы, рабіць выставы пра іх наведвальнікаў у залежнасці ад таго, перад якімі творамі хто затрымліваецца. Так, маладзя дзяўчаты ўпадабалі абстрактную графіку, людзі сталага ўзросту - выявы сабак. А выкладчык з кафедры паталагаанатоміі доўга ўглядаўся ў «ню», відаць, прыкідваючы адпаведнасць розных частак цела прапорцыям.

Сяргей праз год скончыць вучобу, стаўшы маладым хірургам. Ён паказаў на выставе цудоўныя жывапісныя пейзажы. У адказ на пытанне, як удаецца студэнту-медыку выкройваць час для малявання, ён падзяліўся сваім сакрэтам поспеху: «Праўда тое, што мы шмат часу трацім на вучобу, так што вольнага часу амаль не застаецца. Даводзіцца маляваць ноччу. А паколькі ўначы на вуліцы нічога не відаць і з натуры маляваць нельга, я пішу з фотаздымкаў, паштовак. Канешне, не перамалёўваю дакладна, а нешта пераасэнсоўваю». І сапраўды, творы Сяргея ніколькі не падобныя на копіі рэпрадукцый: кожны - арыгінальны, розніца не толькі сюжэтам. Нават мастацкія прыёмы вар'іруюцца ад мадэрнавых сюррэалістычных да традыцыйных, што ствараюць прыродныя прыгажосці, тоесныя казачным.

Такая нетрадыцыйная акцыя студэнтаў-медыкаў адбылася не толькі з-за прагі самадзейнасці, як сказаў адзін з удзельнікаў выставы, «за тыя 10 даляраў, што атрымлівае ўрач, я не змагу ўтрымліваць сям'ю. Трэба займацца нечым яшчэ». Так дактары пераспецыялізуюцца, каб выжыць.

Алена Сіневіч

# «Зімовыя сны» - ластаўка вясны

**Яшчэ ў студзені Таварыства Вольных Літаратараў(ТВЛ) абвясціла пра свой новы выдавецкі праект - серыю кніжак «Літаратура пераходнага перыяду». І вось зусім нядаўна з'явілася першая ластаўка - «Зімовыя сны» Вінцэся Мудрова.**

Празаік Вінцэсь Мудроў - жывая легенда беларускага літаратурнага андэграўнду. На пачатку 70-х ён разам з Уладзімірам Арловым рэдагаваў самвыдатаўскі часопіс «Блакітны ліхтар», пасля канфіскаваны і забаронены ўладамі. Скончыўшы Наваполацкі політэхнічны інстытут, пісьменнік шмат гадоў працаваў на нафтапромыслах Сібіры, а вярнуўшыся на Беларусь, заняўся літаратурай і журналістыкай. Плёнам ягонай дзейнасці сталі кнігі апавесцяў і апавяданняў «Жанчыны ля басейна» (1992), «Гісторыя аднаго злачынства»(1993), п'еса «Жарсці па Галятзі» («Калосьсе», N4,1996), газетная публіцыстыка і рэпартажы на радыё «Свабода». Асаблівую цікавасць у чытачоў выклікаў ягоны гістарычны нарыс «Невядомая Альбанія» («Калосьсе», N2-3,1995), перадрукаваны аўтарытэтным расейскім часопісам «Урал».

Падкрэслена рэалістычная проза Вінцэся Мудрова - даволі рэдкая, а таму вельмі арыгінальная ў сённяшняй беларускай літаратуры з'ява. Прадмет доследу пісьменніка - звычайныя «гомо советыкусы» з айчыннай глыбінкі, з іхнімі штодзённымі клопатамі і праблемамі. Прычым натуралістычнае апісанне ў Мудрова спалучаецца з дасціпным гумарам і палітычнай сатырай. Нашчадак традыцый Андрэя Мрыя па-майстэрску валодае жанрам, здзіўляе натуральным гучаннем сакавітай беларускай мовы. Усё гэта адлюстравалася ў трох аповедах з кніжкі «Зімовыя сны». Асабліва ў рэчы «Іду на таран!», дзе пільныя ваякі-памежнікі прыкладаюць усе намаганні, каб збіць паветраны шар з Нязнайкам, Пілюлькіным, Тарапыжкам ды іншымі карантышкамі, якіх стыхія занесла на Беларусь. У тытульным аповедзе «Зімовыя сны» галоўны герой Яўхім часта сніць падзеі савецка-фінскай вайны 1939-40 гг., згадвае сваю сустрэчу з камандармам Цімашэнкам. Яўхім нават захоўвае ў хаце выразаны з газеты шмат гадоў таму партрэт свайго куміра ды, ...выштурхнуты ў краме з чаргі за выпіўкай, паміpae з ягоным імем на вуснах у прысутнасці міліцыянта.

Неўзабаве ў серыі «Літаратура пераходнага перыяду» выйдзе два зборнікі паэзіі: «Выбранае» Алеся Аркуша і «Падаю ў неба» Анатоля Брусевіча, а таксама кніга крытыкі, эсэ і ўспамінаў Юрыя Гуменюка «Апошняя дэкада».

Людвік Сарока

# Усе на суботнік!

**Мастоўская арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) падала заяву ў мясцовы райвыканкам на дазвол правесці дабрачынны суботнік на будаўніцтве катэджаў для начальства.**

Такое рашэнне сябры партыі прынялі пасля таго, як улады адмовілі правесці мітынг, прысвечаны Дню працы. У той жа паперы ім параілі "адзначыць гэтае свята шчырай працай на карысць горада і раёна на добраўпарадкаванні вуліц або іншых аб'ектаў сацыяльнага прызначэння". Сябры арганізацыі не разгубіліся і вырашылі прыняць гэтую прапанову. 15 траўня дэмакраты падрыхтаваліся папрацаваць на новабудоўлях катэджаў старшыні райвыканкама Аляксандра Кісялёва, яго першага намесніка Адама Кавалька, начальніка міліцыі Мечыслава Улана ды генеральнага дырэктара АТ "Мастыдрэў" Віктара Бурага.

Заробленыя грошы мяркуецца пералічыць у гарадскі бюджэт на асфальтаванне вуліцы Багдана Хмяльніцкага.

Антон Макей

# Машкара «з'ела» 20 кароваў

**Каля 300 галоваў прыватнай і калгаснай жывёлы захварэла на Слонімшчыне ад укусаў атрутнай машкары. Дваццаць кароваў даваліся ўжо зарэзаць.**

Пра гэта паведаміў галоўны ветэрынарны ўрач Слонімскага раёна Мікалай Крупскі.

Паводле яго словаў, з надыходам халоднага надвор'я актыўнасць машкары трохі спынілася, а напрыканцы траўня пагроза для жывёл знікне зусім. Але сёння час вельмі шмат машкары на забалочанай мясцовасці, каля рэк і лясоў, дзе звычайна і пасвіцца жывёла. У першую чаргу атрутная машкара пагражае жывёле калгасаў "1 Мая", "Перамога", "Кастрычнік", "Уперад" і саўгасу "Маладая гвардыя".

Сяргей Чыгрын, «ГС»

# Студэнцкая практыка ў Варшаўскім ваяводстве

**У красавіку гэтага года шэсць студэнтаў Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута выехалі ў Польшчу на вытворчую практыку ў знакамітую садаводчую фірму «Арно» Варшаўскага ваяводства.**

Прыктыка будзе доўжыцца да першага кастрычніка. Паводле словаў кандыдата біялагічных навук Уладзіміра Барысава, яна прадугледжвае поўную садаводчую праграму. Харчаванне і жыллё гарантуе прымаючы бок. Так было і ў мінулым годзе, калі ў той жа фірме праходзіла практыку другая група гарадзенскіх студэнтаў. Яны вучыліся і працавалі. Найбольш здольныя і працавітыя маглі зарабіць да 300 даляраў у месяц.

Вад Айдараў

# Ад словаў да справаў

**Каардынацыйная Рада прадстаўнікоў сацыяльных грамадскіх арганізацыяў Гарадзеншчыны была створана першага траўня.**

Прадстаўнікі каля двух дзесяткаў грамадскіх арганізацыяў, якія займаюцца дапамогай дзецям-інвалідам, хворым, пацярпелым ад аварыі на Чарнобыльскай электрастанцыі, упершыню разам абмяркоўвалі праблемы, якія перашкаджаюць дзейнасці арганізацыяў такога кшталту. У якасці асноўных праблемаў былі названыя недастатковае веданне заканадаўства, недахоп навыкаў працы з уладамі і сродкамі масавай інфармацыі, адсутнасць сувязяў паміж арганізацыямі, а таксама мінімальнай матэрыяльна-тэхнічнай базы.

Удзельнікі Круглага стала, які працаваў 30 красавіка - 1 траўня ў Гродне вырашылі аб'яднаць свае намаганні па вырашэнні гэтых ды іншых праблемаў. Каардынацыю дзейнасці ўсклалі на абраную падчас правядзення Круглага стала Раду на чале са Святланай Руднік.

Ужо бліжэйшым часам Каардынацыйная Рада павінна наладзіць абмен інфармацыяй паміж арганізацыямі, распрацаваць план далейшых дзеянняў. Удзел у працы Круглага стала, арганізаванага Цэнтрам «Трэці сектар», Цэнтрам міла-сэрнасці «Сям'я» і грамадскім аб'яднаннем «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Counterpart», прымалі прадстаўнікі абласной і гарадской выканаўчых уладаў. Сябры грамадскіх арганізацыяў-удзельнікаў Круглага стала спадзяюцца, што атрыманая прадстаўнікамі «вертыкалі» інфармацыя дапаможа наладзіць дыялог паміж мясцовай уладай і грамадскімі аб'яднаннямі сацыяльнай накіраванасці.

# На футбол - з газетай

**Заўзятары футбольнага клуба «Ліда» распачалі выданне ўласнай газеты.**

Новае выданне друкуецца на беларускай мове накладам 299 асобнікаў. Рэдактарам выдання з'яўляецца Алесь Гіневіч.

Акрамя выдання газеты клуб лідскіх заўзятараў футболу арганізуе паездкі групаў падтрымкі сваёй каманды на матчы ў іншых гарадах краіны. Такая падтрымка з боку ўласных заўзятараў, напэўна, стала дадатковым фактарам паспяховага старту лідскага клуба ў чэмпіянаце краіны.

Віктар Людвіковіч

# Жанчынам надакучыла чакаць

**Першага траўня ў Лідзе адбыўся семінар. Цікавым і адметным гэты семінар стаўся таму, што ён быў прызначаны дзеля жынчын, і ўдзел у ім прымалі толькі яны. Гэта зусім не азначае, што ў Лідзе назіраецца дыскрымінацыя мужчын, зусім не. Проста жанчыны таксама маюць права на сваю актыўнасць не толькі ля пліты альбо каля тазіка з бруднай бялізнай.**

На семінар былі запрошаны прадстаўніцы Міністэрства адукацыі, сацыяльнага забеспячэння. Вопытны юрыст кансультавала жанчын у вобласці працоўнага заканадаўства. На жаль, хоць нашае заканадаўства, як бачым і прадугледжвае ільготы жанчынам-працаўніцам і зусім не прадугледжвае дыскрымінацыі па расавых, палітычных або палавых прыкметах, тым не менш, ні для кога не з'яўляецца сакрэтам, што часцяком званьняюць прадстаўніцоў апазіцыі ды не прымаюць на працу цяжарных жанчын.

Дастаткова пазнаёміцца з тымі аб'явамі, якія даюць у прэсе патэнцыяльныя працадаўцы: патрабуюцца маладыя незамужнія дзяўчаты (радзей) альбо маладыя мужчыны (значна часцей).

На семінар была запрошана і госця са Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэта была спадарыня Кэрын М.Уайльд, якая прадстаўляла «Валанцёраў у партнёрстве Інтэрнэшнл». Спадарыня Кэрын надзвычай цікавіцца жыццём беларускіх жанчын. Яна спадзяецца на арганізацыю супольнага праекту паміж амерыканскімі і беларускімі жанчынамі.

На жаль, на семінары было мала настаўнікаў. Яно і не дзіўна, бо ў наш цяжкі час трэба найперш дбаць пра тое, як пракарміць сябе ды сваю сям'ю. Таму і скарысталася наша настаўніцтва вольным днём ды выправілася ў вёску ці на лецішча садзіць бульбу. А шкада, бо на семінары яны маглі б знайсці агульную гаворку з прадстаўніцай Міністэрства адукацыі.

Застаецца зазначыць, што семінар быў наладжаны Свабодным прафсаюзам беларускім ды Беларускім жаночым рухам «Адраджэнне Айчыны».

Лілія Сазанавец

# Кожнай жанчыне па шэсць пар трусоў!!!

**Пастановай за нумарам 458 ад 31 сакавіка гэтага года Савет Міністраў РБ зацвердзіў сярэдні пражытковы мінімум на душу насельніцтва і для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групаў, а таксама Палажэнне па разліку бюджэту пражытковага мінімума. Гэты дакумент вызначае ўзровень мінімальнага спажывання, які прынята называць рысай беднасці, для працаздольнага насельніцтва, пенсіянераў і дзяцей.**



У якасці пражытковага мінімума ў сярэднім на душу насельніцтва прыняты пражытковы мінімум сям'і з чатырох асобаў. Мінімальныя наборы прадуктаў харчавання для асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групаў насельніцтва распрацаваны Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтрам па экспертнай ацэнцы якасці і бяспекі прадуктаў харчавання Міністэрства аховы здароўя.

Лічыцца, што прадуктовыя наборы па хімічнаму складу і энергетычнай каштоўнасці задавальняюць патрэбы грамадзянаў у асноўных харчовых рэчывах і энергіі. Складзеныя асобна (з улікам фізіялагічных асаблівасцяў), яны павінны забяспечваць патрэбы ў харчовых рэчывах ды энергіі мужчын і жанчын, занятых на працы сярэдняй паміж другой і трэцяй групамі інтэнсіўнасці працы і каэфіцыентам фізічнай актыўнасці 1,75.

Набор для пенсіянераў улічвае асаблівасці ўзросту і ўключае ў сябе большую колькасць раслінных, малочных прадуктаў і менш мясных, чым для працаздольнага насельніцтва.

Для дзяцей наборы разлічаны па мінімуму, але з улікам медычных рэкамендацыяў па забеспячэнні:

- паўнавартаснага харчавання для фармавання моцнага і здаровага арганізму дзяцей малодшага ўзросту;

- дадатковага харчавання для актыўнага росту, сацыяльнага і фізічнага развіцця падлеткаў.

Кожны канкрэтны набор уключае прадукты ад хлеба да солі. У пераліку прадуктаў для мужчын працаздольнага ўзросту - 39 найменняў, для жанчын - 40. Дзіўным чынам з «мужчынскага меню» знікла салёная рыба (селядцы), якая, як высветлілася, неабходная жанчыне, праўда, у гамеапатычных дозах - 4,6 грама ў суткі, ці 1,6 кілаграма ў год. Затое для падтрымання працаздольнасці мужчыне ў суткі неабходна: 3,8 грама каўбасных вырабаў і вяндліны; 45,1 грама ялавічыны; 10,4 грама свініны; 7,7 грама субпрадуктаў і 63,7 грама птушкі. Гадавая мужчынская норма спажывання мяса і мясапрадуктаў складае, такім чынам, 47,6 кілаграма, жаночая ж менш на 10 кілаграмаў.

Цяжка, канешне, меркаваць наконт навукова-практычнай абгрунтаванасці такога нармавання, але, скажам, у сярэднім на душу насельніцтва (з улікам немаўлятаў і састарэлых) спажыванне мясапрадуктаў у сем'ях працоўных бакінскіх нафтапромыслаў на пачатку стагоддзя складала 60 кілаграмаў. Невядома, ці здолелі б яны дэманстраваць «сярэднюю інтэнсіўнасць» працы пры тым харчаванні, якое прапануюць беларусам.

Што да непрадуктовых тавараў, то іх пералік, як сказана ў Палажэнні па разліку бюджэту пражытковага мінімума, фармаваўся пад уздзеяннем полаўзроставай структуры насельніцтва, змяняльнасці пораў года, групаў насельніцтва, гранічных тэрмінаў службы і наяўнасці ў шырокім продажы ўсяго пераліку тавараў-прадстаўнікоў.

Увогуле, пры вызначэнні рознага кшталту мінімумаў і сямейных бюджэтаў у іншых краінах, «наяўнасць тавараў» у разлік не прымаецца, тавар заўсёды ёсць - даступнасць вызначаецца коштам, з аднаго боку, і даходамі спажыўца - з другога. Але што ў выніку ў нас атрымалася? У наборы прадметаў гардэробу для жанчын, да прыкладу, на год прадугледжана сем пар панчох, шэсць пар трусоў (панталонаў) і два бюстгальтары. Паліто зімовае павінна служыць (апошні тэрмін эксплуатацыі) восем гадоў, спадніца, джэмпер (світар), спартыўны касцюм (у гардэробе іх павінна быць па адзінцы кожнага віду) павінны саграваць і рабіць гаспадыню прывабнай на працягу пяці гадоў. Зразумела, што беларускі не надта ўжо адчайныя модніцы, але такія звышгранічныя тэрміны эксплуатацыі сапраўды супярэчаць і традыцыі, і ладу жыцця. Да таго ж, айчынная прамысловасць папросту не займаецца вытворчасцю такіх зносаўстойлівых вырабаў.

Гардэроб мужчыны па якасці і патрабаваннях да трываласці вопраткі не адрозніваецца ад жаночага (толькі замест спадніцы - штаны), але дадаецца яшчэ гумовыя боты, якія павінны служыць гаспадару на працягу дзесяці гадоў.

А як улічваюцца асаблівасці ўзросту, калі зімовае паліто, купленае сямігадовай дзяўчынцы, павінна служыць ёй тры гады? Адно з двух: альбо яго трэба набываць з вельмі вялікім допускам на выраст, інакш у дзесяцігадовым узросце дзяўчынка не здолее яго апрануць.

Відаць, распрацоўшчыкі «мінімума» кіраваліся не столькі навуковымі рэкамендацыямі і здаровым сэнсам, колькі памкненнем максімальна знізіць рысу беднасці: каб колькасць беднякоў была невялікай; каб людзей, якія маюць тузін кашуляў і пару спадніц, прадстаўляць калі не багатымі, то заможнымі. У гэтым ўпэўніваюць пералікі прадметаў бытавога і гаспадарчага прызначэння, а таксама бытавых паслугаў, якія могуць пераварыць жыццё сям'і з чатырох асобаў у даволі прыстойнае. Так, ёй мінімальна неабходных дванаццаць наведванняў цырульні ў год, 9,6 - майстэрняў па рамонту абутку і 0,2 - па рамонту тавараў працяглага карыстання. Перыядычнасць апошніх абумоўлена тым, што халадзільнік павінен служыць 15 гадоў, бытавыя асвятляльныя прыборы - 25, тэлевізары і гадзіннікі ўсіх відаў - 12, электрапрасы - 9 гадоў. Такая працяглая эксплуатацыя бытавой тэхнікі, у прынцыпе, магчыма. Але пры адсутнасці рэгулярнага і кваліфікаванага тэхнічнага дагляду і рамонту, як гэта закладзена ў кошт тарыс, тэхніка становіцца крыніцай павышанай небяспекі. Зараз, напрыклад, пажары ў кватэрах часта адбываюцца з-за таго, што людзі, якія не ў стане набыць новыя тэлевізары, «ажыўляюць» старыя ўсімі магчымымі спосабамі.

Наогул, прапануемы насельніцтву ўрадам Беларусі пражытковы мінімум, які яно бярэцца гарантаваць кожнаму, мала чым адрозніваецца ад пайка і набору паслугаў, атрымліваемых у месцах пазбаўлення волі. З той розніцай, што там яны прадастаўляюцца бясплатна.

**Канстанцін Скуратовіч**

# Курсы валют

**На 12 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют: даляр ЗША — 247.000 беларускіх рублёў; еўра — 266.142,50; нямецкая марка — 136.076,50; расійскі рубель — 10.290. У параўнанні з учарашнім днём, афіцыйны курс даляра не змяніўся. На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 12 траўня даляр куплялі па 415.000—420.000 і прадавалі па 425.000—430.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём, курс куплі не змяніўся, курс продажу знізіўся на 5.000 рублёў.**

На мінулым тыдні (3—9 траўня) курс даляра ЗША да беларускага рубля павялічыўся на большасці сегментаў валютнага рынку краіны. Лідарам росту аказаўся курс даляра да рубля на пазабіржавым рынку — 15,8 працэнта (з 480.000—500.000 да 555.000—580.000 рублёў. Пры гэтым у сярэдзіне тыдня курс продажу дасягаў 610.000 рублёў). На «чорным» рынку наяўнай валюты рост курсу, які назіраўся ў пачатку тыдня, змяніўся яго зніжэннем. У выніку курс куплі застаўся на ўзроўні 405.000—410.000 рублёў, курс продажу вырас на 1,2 працэнта, з 415.000—420.000 да 420.000—425.000 рублёў. Нарэшце, ужо ў панядзелак, 10 траўня, курс куплі вырас да 410.000—415.000, продажу — да 425.000—430.000 рублёў. Па-ранейшаму нязменны курс даляра ў абменных пунктах камерцыйных банкаў (290.000—300.000 рублёў пры куплі, 300.000 рублёў пры продажы). На Беларускай валютнафандавай біржы курс даляра павысіўся за тыдзень на 0,4 працэнта (з 245.000 да 246.000 рублёў). Нямецкая марка падаражэла на 2,1 працэнта (са 132.900 да 135.730 рублёў), еўра — на 2,2 працэнта (з 260.000 да 265.680 рублёў), расійскі рубель — на 0,9 працэнта (з 10.140 да 10.230 рублёў). Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам Расіі, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,5 працэнта (з 24,16 да 24,04 рубля), курс беларускага рубля да расійскага — на 2,3 працэнта (з 76,62 да 74,89 расійскага рубля за адзін мільён беларускіх). У пераліку па крос-курсу каціроўка даляра ЗША павялічылася з 315.322,37 да 321.004,14 беларускага рубля.

**Дзмітрый Уласаў**

# Рабочаму болей - урачу меней

**Пасля павышэння памеру мінімальнага заробку работнікі бюджэтнай сферы Беларусі будуць атрымліваць не менш як 4 мільёны 580 тысяч рублёў у месяц.**

Адпаведна словам першага намесніка міністра працы Беларусі Валерыя Паўлава, у цэлым па народнай гаспадарцы заробак павінен скласці каля 15 мільёнаў рублёў.

Цяпер даходы бюджэтнікаў складаюць каля 60 працэнтаў ад узроўня заробку ў прамысловасці.

**Ул. інф.**

# ... аддаваць даводзіцца свае, і назаўсёды

**Ход выканання абавязацельства па пагашэнні і абслугоўванні замежных крэдытаў, атрыманых пад гарантыі беларускага ўрада, быў абмеркаваны 11 траўня на чарговым пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў Беларусі пад старшынствам прэм`ер-міністра краіны Сяргея Лінга.**

Як паведаміў першы намеснік міністра фінансаў Беларусі Мекалай Румас, за апошнія сем гадоў у эканоміку рэспублікі было прыцягнута 1 млрд. 331 млн.даляраў ЗША замежных інвестыцый. 53 працэнты з якіх складаюць крэдыты, атрыманыя непасрэдна ўрадам. Іх пагашэнне вядзецца своечасова і ў поўным аб`ёме. Зусім іншая справа з валютнымі сродкамі, якія былі прыцягнуты пад выкананне разнастайных інвестыцыйных праектаў непасрэдна беларускімі прадпрыемствамі.

Паводле словаў М.Румаса, вяртанне пазычаных грошай — а гэта 630 млн.даляраў ЗША — ідзе ўсё больш марудна. За 1992—1999 гады Міністэрствам фінансаў пагашана крэдытаў на суму 163,8 млн.даляраў ЗША. За апошнія тры гады пратэрмінаваная запазычанасць перад замежнымі крэдыторамі ўзрасла больш, чым у тры разы і склала на 1 траўня 1999 года 18,6 млн.даляраў ЗША. Гэта не толькі сур`ёзна адбіваецца на ўзаемаадносінах рэспублікі з міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі і краінамі-крэдыторамі, але і ўплывае на выкананне бюджэту краіны.

Асноўнымі даўжнікамі па замежных крэдытах з`яўляюцца прадпрыемствы канцэрнаў «Беллегпрам», «Белнафтахім», «Беллеспаперпрам» ды інш. Іх кіраўнікі на пасяджэнні прапанавалі прысутным свой варыянт вырашэння праблемы: прадаставіць неплацельшчыкам дадатковыя эканамічныя ільготы. Але гэтая прапанова не знайшла падтрымкі прэм`ера ды іншых членаў ўрада. Перад кіраўнікамі прадпрыемстваў-даўжнікоў была пастаўлена задача ліквідаваць адтэрмінаваную запазычанасць да 1 ліпеня 1999 года.

На працягу наступнага месяца будзе праведзены аналіз выканання гэтага даручэння. Прэзідыум Савета Міністраў краіны разглядзеў таксама пытанні выхаду спажывецкай кааперацыі рэспублікі ў 1999—2000 гадах на асноўных паказчыках гаспадарчай дзейнасці на ўзровень 1990 года.

**Ул. інф.**

# Перасядзем на коней?

**Як стала вядома, 1 чэрвеня 1999 года ўступае ў сілу пастанова Савета Міністраў Беларусі «Аб расходах на ўтрыманне службовага легкавога аўтатранспарту». Згодна з пастановай, суб'екты гаспадарання, незалежна ад арганізацыйна-прававой структуры, павінны ўключаць у сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) расходы на ўтрыманне толькі аднаго адзінкі службовага ці выкарыстоўваемага для службовых паездак асабістага легкавога аўтатранспарту.**

Выключэнне зроблена толькі для спецыяльнага аўтатранспарту, што будзе выкарыстоўвацца ў тэхналагічных мэтах. Расходы на ўтрыманне легкавога аўтатранспарту звыш усталяваных пастановай норм выторчасці робіцца за кошт прыбытку, што застаецца пасля уплаты ўсіх падаткаў.

**Сяргей Балыкін**

# Няма часу марудзіць

**27 красавіка ў Міністэрстве па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі адбыўся семінар «Аб актуальных пытаннях рэфармавання камунальнай уласнасці». Ён быў арганізаваны сумесна з праектам Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) «Малая прыватызацыя на Беларусі». У семінары бралі ўдзел 220 спецыялістаў абласных, гарадскіх і раённых органаў прыватызацыі.**

Нягледзячы на тое, што камунальная ўласнасць рэфармуецца больш актыўна, чым рэспубліканская, завяршэнне малой прыватызацыі ў асноўным да першага ліпеня бягучага года, як таго патрабуе заканадаўства, апынулася пад пагрозай зрыву. Пра гэта было сказана ў выступленні начальніка аддзела рэгулявання працэсаў раздзяржаўлення і прыватызацыі камунальнай уласнасці Ларысы Пановай. На яе думку, для таго, каб актывізаваць правядзенне малой прыватызацыі, неабходна пашырыць спісы аб'ектаў, якія належаць прыватызацыі, скласці план (па месяцах) іх рэфармавання, правесці тлумачальную работу ў працоўных калектывах. Ларыса Панова падкрэсліла, што недапушчальна марнаваць бюджэтныя сродкі на падтрымку дзяржаўных прадпрыемстваў, і нагадала ўдзельнікам семінару, што ў прэзідэнцкім Дэкрэце N3 канкрэтна ўказана на неабходнасць прыватызацыі прадпрыемстваў з мэтай іх фінансавага аздараўлення. У гэтым выпадку ініцыятыва павінна зыходзіць ад мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. «Тэрміны, адведзеныя для завяршэння прыватызацыі, вельмі кароткія, - сказала яна, - і ў нас няма часу марудзіць».

Кансультанты праекта МФК «Малая прыватызацыя на Беларусі», якія працуюць у розных гарадах, заўважаюць, што ў мясцовых органаў прыватызацыі ўзнікае шмат пытанняў па новых дакументах. На жаль, бывае так, што нарматыўны акт адказвае на адно пытанне, аднак выклікае шмат іншых. Пра гэта гаварыў на семінары кіраўнік праекта «Малая прыватызацыя на Беларусі» Джэф Фэрры. Ён прапанаваў збірацца на такія семінары часцей, чым раз у паўгода, і прысвячаць іх больш вузкім тэмам.

Досвед супрацоўніцтва кансультантаў праекта МФК са спецыялістамі рэспубліканскага і мясцовага ўзроўняў паказаў, што яны могуць пісьменна, эфектыўна, паслядоўна і хутка праводзіць прыватызацыю ў поўнай адпаведнасці з законам. У рамках праекту ва ўсіх абласных цэнтрах праведзена болей як 370 аўкцыёнаў, на якіх прыватызавана каля 700 аб'ектаў. Апошнім часам на адкрытых таргах усё актыўней прадаюцца аб'екты прыватызацыі, размешчаныя ў вёсках ды іншых невялікіх населеных пунктах.

Малая прыватызацыя становіцца магутным штуршком для развіцця прадпрыемстваў, што станоўча адлюстроўваецца на эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі ў горадзе і рэгіёне. На аб'ектах камунальнай уласнасці, прыватызаваных у рамках праекту, працуе амаль 9 тысяч чалавек, створана больш за 1 700 новых працоўных месцаў.

**Ул. інф.**

# Volkswagen зніжае кошты

**Генеральны імпарцёр канцэрна Volkswagen AG у Беларусі — замежнае прадпрыемства «Атлант-М Фарцойгхандэль» абвясціла аб зніжэнні цэн на легкавыя аўтамабілі канцэрна.**

Цэны, у прыватнасці, зніжаны на мадэлі Polo, Polo Classic, Polo Variant, Passat, Passat Variant і пазакласавую — Volkswagen New Beetle («новы жук»). Паводле звестак, у сярэднім базавыя мадыфікацыі Polo, Polo Classic і Polo Variant сталі для айчыннага пакупніка больш даступнымі на 1 800 нямецкіх марак; базавыя мадыфікацыі Passat і Passat Variant — у сярэднім на 1 300 нямецкіх марак. «Новы жук» зараз стартуе з цаны ў 30 245 нямецкіх марак, што адпавядае ў цяперашніх суадносінах суме прыблізна роўнай 16 600 долярам ЗША.

Змянілася цана і на дадатковае абсталяванне. Так, найбольш папулярная мадыфікацыя Polo Classic з рухавіком аб'ёмам 1,6 літра (75 к.с.), камфорт-пакетам, кандыцыянерам і колерам «металік» стала даступней больш чым на 2 000 нямецкіх марак. Штo тычыцца найбольш папулярнага Passat 1,8T «Камфортлайн» з аўтаматычным кандыцыянерам і колерам «перламутр», то зараз пры яе набыцці пакупнік зэканоміць 1 250 нямецкіх марак.

Істотна знізіць цэны на аўтамабілі дазволілі льготныя ўмовы, якія ўступілі ў сілу пасля нядаўняга падпісання дамовы ў Германіі. Гэта надало беларускаму прадстаўніцтву Volkswagen статус генеральнага імпарцёра канцэрна.

**Аляксей Арэшка**

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# «Головокружение от успехов»

**Усё ніжэй надрукаванае было напісана мною на пачатку вясны, але неяк забылася за святамі, сапраўднымі ды прыдуманымі. А ўзгадалася зараз пасля «бацькавага» выступу па тэлебачанню, калі той кагосьці «чихвостил», маўляў - спыніліся ў развіцці (хіба меў на ўвазе гаспадарку... ці што?). І далей сказаў літаральна: «У некоторых наших руководителей произошло головокружение от успехов» (цікава, што за поспехі меў на ўвазе прэзідэнт, можа, поспехі «некоторых» у асабістым жыцці?). Дык вось падобнае «головокружение от успехов» у гэтай краіне - ранейшым СССР - было, і не раз, але калі я не памыляюся, найбольш моцна яна (галава) кружылася ў першы раз... цьфу,..цьфу,..цьфу - у 30-я гады. Вынікі гэтага «головокружения» вы памятаеце (хто на сабе адчуў, іншыя з падручнікаў ды па расказах родных і блізкіх ведаюць). Падумаўшы пра гэта ўсё, вырашыў напісаць гэты забыты мной сакавіцкі тэкст і даслаць у рэдакцыю, пакуль галава не закружылася. Вось ён.**

Вы звярнулі ўвагу? Ізноў пачаліся «исторические», «судьбоносные» паездкі па краіне нашага «бацькі» са сваёй світай. Гэткае своеасаблівае «явление Христа народу». Адразу і не зразумееш. Але ж крышку падумаўшы - я дакумекаў. Прэзідэнт пайшоў у народ (электарат) -напярэдадні маючых адбыцца выбараў прэзідэнта. Чаму? Ды каб у чарговы раз «параіцца» з электаратам, паспрабаваць пераканаць яго ў тым, што надышоў час рабіць (паводле словаў самога прэзідэнта) «более сильные телодвижения». Яшчэ прасцей - «запытаць» у электарата: па вясне пара «саджаць» ці не? Адказ таксама відавочны: «канешне, саджаць, а як жа інача». Гэта і стане для прэзідэнта законам да дзеяння. Пры чым тут Канстытуцыя? За дзень падробім - пападціраем што непатрэбнае і айда «гуляць» па гарадах ды вёсках ягоныя «апрычнікі» ды наглядаць, хто там «больше трёх» сабраўся? У турму яго! Закон? «Закон што дышаль - куды павярнуў, туды і выйшаў!» (Дарэчы, пісаў я гэты радкі другога сакавіка і глядзіце, як празорліва! Мо ў экстрасэнсы пайсці? Ужо і Чыгір у турме і многія-многія іншыя). Так што саджаюць ужо па вясне і не толькі бульбу.

Сумны жарт. Ды цяпер не магу зразумець, уцяміць сваёй галавой, як магло такое здарыцца, што пасадзілі ў клетку двойчы героя працы, 75-гадовага Васіля Старавойтава, а ягоныя «былыя» паплечнікі сядзяць па сваіх цёплых кабінетах - «норах» і баяцца рот раскрыць у абарону. Як вады ў рот набралі. Ну, а мазгі? У іх жа вады не набярэш. Яны ж думаць павінны. Цікава, пра што думаюць гэтыя «мужы». А сумленне? Мо баяцца памяняць норы на нары? «Бацька» ж, відаць, не жартаваў, калі гаварыў: «От тюрьмы и от сумы не уйдёшь». Дык тым больш патрэбна яднацца. Нічога не разумею... Застаецца толькі «паспачуваць» нашаму губернатару А.Дубко. Як жа тут скажаш нешта супраць, калі цябе, высокага прафесіянала, заслужанага чалавека, героя працы савецкіх часоў, зараз правяраюць на прафпрыдатнасць Замяталін, Посахаў і Даўгалёў. (Кім яны былі ў часы славы Дубко?). Можа, у яго ім разам з былым дырэктарам адстаючага саўгаса павучыцца прафпрыдатнасці? Дык дзе ж Вы, Аляксандр Іосіфавіч... а-у-у! Маўчыце? І вось глядзіце, якая розніца - Ваш былы супрацоўнік спадар Домаш - гаварыць не баіцца! А ў яго ж таксама сям'я, свой дом ды іншыя выгоды былі, мог жа маўчаць, але ж «высунуўся». Па-Вашаму, Аляксандр Іосіфавіч, гэта «горе от ума»? А па-мойму, гэта і ёсць грамадзянскі ўчынак, гэта і ёсць «жить не по лжи». Здаецца, ён афіцыйна не герой, а на самой справе?

У такія часы і толькі ў такія, праявраецца, хто ёсць who. Ды што Дубко, а дзе ж галасы таго ж Бядулі, Сянько і г.д., дзе? Яны ж таксама героі, мо, праўда, тых часоў? А па-мойму, усё ж герой зараз у нас другі пайшоў. Той жа Домаш, Пазьняк, Хадыка, Шчукін. Дарэчы, пра Шчукіна. Вось бы з каго камуністам браць прыклад! Дык не, страшна, лепей і спакойней быць побач з новым гаспадаром жыцця, а як аслабне, першым жа і «ўгрызнуць». Вось такая простая арыфметыка з геаграфіяй. Вы разумееце, якіх «грызуноў» я маю на ўвазе? Ды таго ж Чыкіна & К. Дарэчы, мне вельмі «падабаецца» наш граданачальнік - аматар цытатаў і маналогаў. Забыўся прозвішча, ну той, які некага там прыхлопнуць ці што паабяцаў. Складна гаворыць, але ж да Кашпіроўскага не дацягвае. Шкада, не засынаю.

Дык вось, з «падтрымкай» Старавойтава былымі паплечнікамі ўсё зразумела. Можа, тады ў дэпутатаў ды бізнесоўцаў інакш? Пасадзілі Клімава - шмат гаварыў і шмат ведаў, дэпутат Вярхоўнага Савета. І што? Наконт абедзвюх палат таксама ўсё зразумела. Хто ж яго падтрымае, ён жа «былы»? Па-мойму ж, якраз яны там усе і ёсць «былыя», на чале з Малафеевым. Чаму ж маўчаць бізнесоўцы? І тут не ўсё так проста. Мабыць, памятаеце, не так даўно выступаў прэзідэнт і лаяў сваіх міністраў? Крычаў прыкладна так: «Няма ў казне грошай. Дык вы ж звярніцеся да бізнесоўцаў, у іх ёсць грошы. Вы не ўмееце іх узяць. Ды і самі бізнесоўцы ўжо мне тэлефануюць: «Аляксандр Рыгоравіч, вазьміце ў нас грошы. Мы самі аддамо».

Я думаю, мой чытач, што і наконт «падтрымкі» Клімава бізнесоўцамі ты таксама ўсё зразумеў. Хто ж хоча, адкрыўшы рот, прамяняць «чарку і шкварку» на нары? Ды ў прэзідэнта і тут усе свае, па тыпу «торгэкспо». Вы ж памятаеце, былі ўжо дзве перарэгістрацыі. Так што «чужие там не ходят».

А што тычыцца маладых патрыётаў, якія сядзяць альбо сядзелі ў менскіх ды іншых засценках, за тое, што змагаліся за незалежнасць сваёй радзімы ды сваю чалавечую годнасць, сваю мову, свой сцяг, то палеглыя ў Айчынную вайну за Менск, бадай што ў дамавінах пераварочваюцца! Гэта ж трэба: патрыёты ў засценках, а малойчыкі з фашысцкай свастыкай, фашысты, спакойна разгульваюць па вуліцах ды збіваюць унукаў гэтых палеглых у вайну. І ім за гэта нічога. Абсурд! А хто ж будзе абараняць тых, хто за кратамі? А ніхто! Усе ж маладыя, хто не ў фашыстах, паехалі альбо задарма стрыгчыся, ці ў кіно «на халяву», або ў аўтобусах задарма катаюцца, а мо яшчэ дзе...

Лепей пра гэта спытаць у БПСМ - гэта яны такую «халяву» прадастаўляюць - толькі ўступай. Цікава, праўда? Абы толькі не ў палітыку! Ці не так мы раней гаварылі пра капіталістычную моладзь? А зараз ужо і самі з вусамі. Вось так. А што прэзідэнт? А нічога. Гойсае сабе па гарадах ды вёсках, каб заручыцца падтрымкай электарата. А гэта значыцца, абскоквае калгасы ды саўгасы. Такая своеасаблівая «рэкламная паўза». Вось тут ён адчувае сябе «комфортно и сухо». Там жа ўсе свае. Як у той байцы пра асла, які «прабіў» мост у лясного начальства ўздоўж рэчкі замест упоперак.

Дарэчы, наконт рэкламы. Тут не так даўно ўключаю (што здараецца даволі рэдка) БТ і чую: «Печатание телепрограмм БТ без разрешения редакции - запрещено». Я б тут удакладніў - прагляд гэтых перадач забаронены для нармальнага чалавека. Астатнім можна. Памятаеце, не так даўно паказвалі на ўсю краіну пра прэзідэнта і адну жанчыну? Яна ўсё распавядала прэзідэнту, як таго любяць у чужой краіне (вы ж ведаеце, у якой). А потым ледзьве не са слязьмі на вачах прызналася яму ў каханні і сама. Маўляў, раней і не галасавала, а цяпер пакахала. Відаць, яна ўсё ж мела на ўвазе Вашу, Аляксандр Рыгоравіч, знешнасць, - дакумекаў я. Вы ж мужчына (не мне аб гэтым разважаць) хоць куды! І з «арыентацыяй» у Вас усё ў парадку. Таму што вельмі любяць даваць Вам...інтэрв'ю жанчыны. Хаця ж не магу ўцяміць, чаму б ім, нашым жанчынам, не пакахаць у такім разе Біла Клінтана, як той Моніцы Левінскі? У таго ж таксама ўсё о'key, ды затое як жывуць!!! Значыцца, не ў знешніх дадзеных тут справа, а ў прапагандзе. Тут добра працуюць палітрукі ды агітатары. У перакладзе з іх мовы гэта будзе гучаць прыкладна так: «любоў зла - палюбіш і казла». І што цікава, чым больш бедная і адсталая дзяржава, чым больш зацюканы народ (электарат), тым больш любяць і шануюць там дыктатараў-кіраўнікоў. Вось яны, гэтыя краіны: Паўночная Карэя, Куба, Камбоджа; хіба што зараз можна ўнесці ў гэты спіс і нас з Югаславіяй.

Так што, Аляксандр Рыгоравіч, Вы занадта не радуйцеся, калі і Вам выказваюць афіцыйную хвалу ды прызнанне ў афіцыйным каханні (хоць бы і жанчыны), гэта яшчэ нічога не значыць, хаця і прыемна, зразумела. Гэта ж яны Вам робяць афіцыйную любоў да павагу, гэтыя Вашы «дурадцы» ды «лакіравальшчыкі». Вы ж іх добра ведаеце. Хаця б той самы Павел Якубовіч, які мае сваяка з «Поля чудес». А Ваш галоўны «рэзанатар», мабыць мае сваякоў у перадачы «Эти забавные животные». Толькі вось з Рудаметавым незразумела. У гэтым выпадку, хутчэй за ўсё, ёсць штосьці з кнігі «Як унтэр-афіцэрская ўдава сама сябе розгамі пасекла». А як жа інакш, калі гэты чалавек (вось дзе «не могу поступиться принципами») ганіць з перадачы ў перадачу тую ж Польшчу, маўляў, як ім там дрэнна. Быў я у той Польшчы неадназова, пачынаючы з 1988 года, і бачу ў іх вялікія перамены. Так, у 1988 годзе ў іх было, як і ў нас. А што зараз? Пенсіянеры, дзе я гасцяваў, сёння атрымліваюць пенсіі: яна $250, ён - $350. У адрозненне ад маёй цешчы, якая мае ў пералік з «зайцоў» $6. А хто працуе ў Польшчы - мае $500-700.

А страйкуюць яны, каб жылося яшчэ лепш і справядлівей, каб урад не лез да іх у кішэні і не браў з іх больш як трэба. А як у нас, спадар Рудаметаў, са свабодай, з урадам ды з пенсіяй? Тое ж! У чужым воку парушынку бачым, а ў сваім бервяно не заўважаем! Ды далася Вам тая Польшча, паглядзіце, як жывуць на Захадзе. У Германіі адзін ветэран-пенсіянер выступаў і сказаў, што мае пенсію ў 3000 марак. А нашы ветэраны колькі, таварыш Рудаметаў? Сорамна за Вас. Усё гэта наводзіць на сумныя думкі, таварыш прэзідэнт! Можа, лепей, чым «адшукваць» вось гэтых заказаных у Вас жанчын, - давайце памяняем маршрут. Параіў бы Вам заехаць у бальніцы (акрамя псіхушак, а мо...), у школы, тэатры, бібліятэкі, дамы састарэлых і паслухаць, што Вам людзі скажуць.

Вось і паглядзім тады, што і як будуць «лакіраваць» Вашы «лакіратары» з «рэзанатарамі». Хіба што гнілыя парты ў школах без рамонту і ложкі з паламанымі спружынамі ды без бялізны ў бальніцах. А яшчэ галодных хворых без лекаў ды такіх жа галодных медыкаў. Дзетак ды настаўнікаў (якіх сытымі не назавеш), што сядзяць на ўроках у зімовых паліто. А яшчэ, Аляксандр Рыгоравіч, паглядзіце, чым іх там лечаць ды чаму вучаць. Вось такая яна горкая, гэтая праўда. А цяпер прыгадайце, калі ласка, Аляксандр Рыгоравіч, 1994 год і тое, што Вы гаварылі тады. Памятаеце? «У меня есть нормальные, талантливые люди, которые займут ключевые посты...». Куды ж яны падзеліся? І якіх у такім выпадку людзей Вы набралі замест «нармальных»?

Я разумею, што «нармальныя» тады ў Вас былі, згодны? Тыя ж Чыгір, Ганчар, Захаранка, Сасноў-Багданкевіч, Грыб, Фядута, Ален Дэлон (прабачце, забыўся прозвішча) ды іншыя. Дзе яны зараз? Як кажуць: «иных уж нет, а те далече». Таму прашу Вас, Аляксандр Рыгоравіч, памятайце, калі ласка, - Вам не па дарозе з тымі, каго Вы набралі замест «талантливых и нормальных», павылівайце вон іх бочкі «лаку», і тады Вы ўрэшце зразумееце, «каму на Беларусі жыць добра». І, будзьце так ласкавы, не замінайце свайму народу зрабіць свой выбар. Паверце, ён гэта выпакутаваў. Бо ўсё роўна народ, як тая рэчка, загарадзі яе, а яна яшчэ шырэй стане, глыбей, і тады ніякія загародкі не дапамогуць. Знясе рэчка ўсё гэта з трэскам, як у той кнізе пра горад Глупаў, і тады давядзецца Вам шукаць другое месца, каб там пабудаваць тое ж самае. Але варта памятаць фінал той кнігі.

Урэшце рэшт, вызначцеся, Аляксандр Рыгоравіч, за які Вы парадак - за нямецкі альбо за югаслаўскі? Няхай даруюць мне гэтыя народы, я ім шчыра спачуваю. Але ж і ў Югаславіі цяпер, і ў Германіі тады былі дыктатары. Дык можа ў гэтым справа? Яны Вам падабаюцца! Што, будзем «біцца» да апошняга чалавека за «сильную власть», а мо давайце будаваць разумную?

І напрыканцы, Аляксандр Рыгоравіч, досыць разыгрываць палітычнае МММ - гэта таксама шлях у нікуды. Гэта ж каб працэй сказаць, тая ж піраміда альбо Вавілонская вежа па-сучаснаму.

І чым вышэй па ёй забірацца, тым балючай будзе адтуль падаць. А што тычыцца Вас, Аляксандр Рыгоравіч, дык Вы ж самі яе выбралі? Вось людзей тых, каго яна паглыне, шкада... А мо так і трэба. А каб не было так сумна, прывяду цытату-анекдот аднаго сатырыка: «Вместо того, чтобы крикнуть: «Что же вы, суки, делаете?! Мы думаем - что же они, суки, делают?» Не смешна?..

**З павагай да Вас, спадар Безгаловы - бо ад «поспехаў» кружыцца няма чаму**



## Псіхалогія натоўпу

**У натоўпе свядомая асоба знікае, пры гэтым пачуцці і думкі асобных адзінак, якія ўтвараюць натоўп, прымаюць адзін і той жа накірунак. Часам увесь народ пад уздзеяннем пэўнага ўплыву ператвараецца ў натоўп, хаця і не ўяўляе сабой сходу ў прамым сэнсе. Дзіўны факт: якімі б не былі асобы, іх характар, адукацыя, жыццёвы досвед, у натоўпе яны паводзяць сябе аднастайна, інакш, чым паасобку.**

Цікава зразумець прычыны такой розніцы ў паводзінах. Справа ў тым, што свядомае жыццё розуму складае толькі невялікую частку ў параўнанні з яго свядомым жыццём. Большасць нашых штодзённых дзеянняў не патрабуе напружання розуму. Гэтая несвядомасць злучаецца ў натоўпе, узмацняецца шляхам узаемнага ўнушэння і псіхалагічнага ўплыву і выходзіць на першае месца. Асабістасці і разнастайнасці людзей топяцца ў аднастайнасці, і верх бяруць несвядомыя якасці. Таму ўзятыя паасобку людзі разумнейшыя, чым натоўп цалкам.

У натоўпе ўзнікаюць і новыя рысы, якія не бачны ў асобных людзях. Асоба ў натоўпе, дзякуючы вялікай колькасці, адчувае сваю непераадольную сілу, і гэта сіла вызваляе яе інстынкты, якія яна падпарадкоўвае. Пачуццё адказнасці, якое стрымлівае асобу, у натоўпе знікае. Пры гэтым узнікае зараза, кшталту ўзаемнага гіпнозу, якая перадаецца ад адной асобы да другой у натоўпе. Свядомасць у загіпназаванага чалавека знікае, знікае воля і разважлівасць. Усе пачуцці і думкі падпарадкоўваюцца волі гіпнатызёра (правадыра).

Асобаў з моцным характарам у натоўпе занадта мала, і яны не могуць супрацьстаяць агульнай плыні. Можна толькі паспрабаваць адцягнуць увагу натоўпа шляхам новага ўнушэння, накіраванага на іншы аб'ект.

Такім чынам, чалавек у натоўпе апускаецца ніжэй па прыступках цывілізацыі, губляе сваю культуру. Узнікае злосць, неўтаймаванасць, самадурства, але можа ўзнікнуць энтузіязм і гераізм. Натоўп лёгка раздражняльны, зменлівы ды імпульсіўны. Ён таксама легкаверны і паддаецца ўнушэнню. Кіраваць натоўпам можна ўплываючы на пачуцці, выкарыстоўваючы стэрэатыпы, забабоны ды ідэалагічныя міфы. Логіку і довады розуму натоўп не ўспрымае.

Усё вышэйнапісанае ёсць пачатак пераказу працы французскага вучонага Гюстава Ле Бона «Псіхалогія масаў», якая выйшла ў свет напрыканцы мінулага стагоддзя і стала вядомай чытачам толькі ў 1998 годзе па зборніку «Психология масс», выдадзеным у Самары (РФ). Асоба чалавека ёсць прадмет навуковага даследавання, але ў свеце выкарыстоўваецца псіхалогіяй масаў. Войны, гвалт, ідэалагічныя міфы - іх рухомай сілаю трэба прызнаць псіхалогію масаў.

Правадыры і дыктатары выкарыстоўвалі веды псіхалогіі масаў для захопу і ўтрымання ўлады, для замбавання людзей, прадукавання нянавісці ды знішчэння апанентаў і проста разважлівых людзей. У СССР распаўсюджванне гэтых ведаў было забаронена. Дыктатура, што ўсталявалася на Беларусі, карыстаецца гэтымі ведамі даволі эфектыўна. Нездарма першым злачынствам Лукашэнкі было ўсталяванне кантролю над сродкамі масавай інфармацыі насуперак Канстытуцыі. Тэлегледачы ўтвараюць асаблівы натоўп, і тэлевізар ёсць сродак уплыву. Вось ужо пяць гадоў на Беларусі ідзе інфармацыйная вайна супраць беларусаў.

**Сяргей Дамброўскі**

